Міністэрства інфармацыі разблакавала сайт “Народнай Волі” www.nv-online.info. Заходзьце і заставайцеся з намі!

На прастор, на шырокі разлог
Выходзі, мой народ, грамадою...
*Якуб КОЛАС*

№ 6 (4771)

24 студзеня 2023 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.




# Народная Воля

ТАМ, ЗА КРАТАМІ

## Аляксандр Фядута выйшаў з турэмнай бальніцы і збіраецца пісаць кінасцэнарый



Нагадаем: у мінулым годзе ў Мінскім абласным судзе быў вынесены прысуд па справе *«аб змове з мэтай захопу дзяржаўнай улады»*.

На лаве падсудных знаходзіліся палітолаг, журналіст і літаратуразнаўца **Аляксандр Фядута**, кіраўнік Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў**, юрыст **Юрый Зянковіч**, супрацоўніца яго мінскага офіса **Вольга Галубовіч**, актывіст і дальнабойшчык **Дзяніс Краўчук**.

У выніку Юрый Зянковіч атрымаў 11 гадоў зняволення, Аляксандр Фядута і Рыгор Кастусёў – па 10 гадоў, Дзяніс Краўчук і Вольга Галубовіч – па 2,5 года пазбаўлення волі.

Аляксандр Фядута быў накіраваны адбываць пакаранне ў Магілёўскую калонію, але патрапіў у турэмную бальніцу амаль адразу пасля пераводу ў папраўчую ўстанову: абвастрыліся праблемы з сэрцам, з’явіліся ацёкі.

*“Днямі муж мне і патэлефанаваў, і ліст ад яго прыйшоў у мінулую пятніцу*, – распавяла “Народнай Волі” **Марына Шыбко**, жонка Аляксандра Фядуты. – *Па тэлефоне пагаварылі ўсяго тры хвіліны, таму нічога важнага не абмяркоўвалі. Шчыра кажучы, я нават асабліва і не спадзявалася на гэты тэлефонны званок, усё было абсалютна нечакана.*

*Аляксандр паведаміў, што ўжо выйшаў з турэмнай бальніцы. Падлячылі яго там, крыху здароўе аднавілі…*

*Таксама прыйшоў і ліст. Саша напісаў, што збіраецца пісаць кінасцэнарый, а для працы над ім будзе замаўляць пэўныя кнігі. Галоўнае -- каб здароўе не падводзіла”.*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ЛІСТ З РЭДАКЦЫІ

## Каб больш было падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”...

Так, шаноўныя прыхільнікі свабоднага слова, у чарговы раз нагадваем, што рэдакцыя вельмі зацікаўлена ў тым, каб было больш падпісчыкаў на PDF-версію “Народнай Волі”. На жаль, і да сённяшняга дня не вырашана праблема з допускам у друкарні, а значыць няма магчымасці папаўняць бюджэт за кошт рэалізацыі газеты ў папяровым варыянце, продажу яе праз шапікі і ў паштовых аддзяленнях. Вось чаму важна, каб колькасць падпісчыкаў на электронны варыянт газеты павялічвалася. І Вы, нашы сённяшнія чытачы, можаце гэтаму актыўна паспрыяць. Парайце, калі ласка, сябрам, саслужыўцам, суседзям, сваякам, каб і яны, як Вы, падпісаліся на PDF-версію газеты і на наш тэлеграм-канал.

***Нагадаем, што падпісацца на PDF-версію «Народнай Волі» можна на сайце belpressa.by. Для гэтага трэба зайсці на сайт belpressa.by, націснуць укладку «2023» і выбраць месяцы, на якія Вы будзеце афармляць падпіску. Кошт падпіскі сімвалічны – 9 рублёў 48 капеек.***

Асобна звяртаемся да тых, хто мае магчымасць праявіць адрасную дабрачыннасць. Ёсць некалькі спосабаў пералічыць грашовыя сродкі (даём рэквізіты ў рускамоўным варыянце) на рэдакцыйны рахунак.

1.Через ЕРИП:
СМИ – Н (просто буква) – «Народная Воля» – Добровольные взносы.
2.Через БАНК:
ИЧУП «Народная Воля». 220030 г.Минск, ул.Энгельса, 34а
р/с BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933,
Код PJCBBY2X, ЦБУ 113 «Приорбанк» ОАО, г.Минск
УНП 100961759
Загадзя выказваем шчырую ўдзячнасць!

**Вы – з «Народнай Воляй»! «Народная Воля» – з Вамі!**

ЛЁС ЧАЛАВЕКА

## Ці будзе Мэрыем Герасіменка абскарджваць прысуд?

*Спявачка атрымала тры гады “хатняй хіміі”.*

Лідар гурта Meriem Band **Мэрыем Герасіменка** нарадзілася ў Мінску. Пасля школы вучылася ў каледжы, затым паступіла ва ўніверсітэт. Атрымала юрыдычную адукацыю.

Займалася спортам, у свой час дзяўчына ўваходзіла ў склад юнацкай зборнай Беларусі па валейболе.

*“У мяне за плячыма прэзідэнцкая музыкальная школа, я піяністка*, – казала Мэрыем у адным з інтэрв’ю. – *Паралельна выкладчыкі заўважылі, што спяваю. У мяне быў нехарактэрны для дзяўчынкі нізкі голас. На самай справе я ніколі не думала, што буду займацца спевамі ў прафесійным плане. Заўсёды марыла працаваць у следчых органах, у мяне дзве юрыдычныя адукацыі. Але ў нейкі момант людзі павярнулі мяне на правільны шлях, і я зразумела, што не змагу быць офісным планктонам”.*

З часам Мэрыем адкрыла ўласную музычную школу для дзяцей. Самастойна пісала музыку і тэксты, выступала на розных мерапрыемствах і карпаратывах.

Мэрыем Герасіменка – лаўрэат шматлікіх конкурсаў, намінант Нацыянальнай музыкальнай прэміі “Адкрыццё года”. Лаўрэат прэміі Vklube.tv 2013 “Прарыў года”, фіналістка і сярэбраны прызёр тэлевізійнага вакальнага шоу “Акадэмія талентаў-4”, фіналіст праекта “Ікона сцэны”, удзельніца расійскага праекта “Галоўная сцэна”, “Голас Расіі”, лепшы Cover-выканаўца 2016, 2017 па версіі Прэміі М017 і Belarusian Music Awords, пераможца конкурса выканаўцаў TOP 8 – “Лепшы музыкальны калектыў краіны”.

*“Я зарабляю грошы спевамі з 16 гадоў,* – распавядала спявачка. – *За тры гада працавала амаль ва ўсіх начных клубах Беларусі. У будучым у мяне шмат планаў і амбіцый…”*

Мэрыем Герасіменка затрымалі 4 жніўня 2022 года пасля канцэрта ў мінскім бары “Банкі-бутэлькі”, дзе спявачка выконвала песню



“Обійми” украінскага гурта “Океан Эльзи”. Факт выканання песен на ўкраінскай мове абурыў прапагандыстаў.

Пасля затрымання спявачку двойчы асудзілі на 15 сутак паводле адміністрацыйнага артыкула, а пазней перазатрымалі ў межах крымінальнай справы і змясцілі ў СІЗА.

Напрыканцы мінулага тыдня суд Цэнтральнага раёна асудзіў Мэрыем Герасіменка паводле ч. 1 арт. 342 (Арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, альбо актыўны ўдзел у іх) і прызначыў ёй тры гады абмежавання волі без накіравання ў папраўчую ўстанову адкрытага тыпу (“хатняй хіміі”).

Пакуль яшчэ невядома, ці будзе спявачка абскарджваць гэты прысуд.

**Віктар ШПАК.**

ПРАГНОЗ

## Як зменяцца зарплаты бюджэтнікаў?

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны папярэдне падлічыла, што заработныя платы работнікаў бюджэтных сфер вырастуць у гэтым годзе на 16 працэнтаў.

Такую лічбу агучыла ў эфіры «Беларусь 1» кіраўніца ведамства **Ірына Касцевіч.**

“Мы прагназуем, што рост заробкаў складзе дзесьці 16 працэнтаў – у сярэднім павелічэнне будзе на 200 рублёў”, – заявіла міністр.

**Паліна ГЛІНСКАЯ.**

БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫ!

## Калі з’явіцца беларуская вакцына ад каранавіруса?

*Рэгістрацыя прэпарата адбудзецца пасля таго, як пройдуць вопыты над эксперыментальнымі жывёламі.*

Начальнік аддзела навукі Міністэрства аховы здароўя **Маргарыта Досіна** распавяла, што іх ведамства плануе зарэгістраваць айчынную вакцыну ад COVID-19 у снежні гэтага года.

Раней кіраўнік Нацыянальнай акадэміі навук **Уладзімір Гусакоў** заяўляў, што ў краіне ідзе распрацоўка вакцыны ў таблетках, але, па словах прадстаўніцы Міністэрства аховы здароўя, *“прэпарат будзе класічны -- у выглядзе раствору”.*

Па словах эксперта, прататып распрацаваны, у гэтым годзе вучоныя-медыкі разлічваюць атрымаць першыя тры вопытна-прамысловыя партыі вакцыны. Бяспеку прэпарата ў бліжэйшы час праверацць у працэсе даклінічных даследванняў на эксперыментальных жывёлах, а затым будзе праверка эфектыўнасці.

Маргарыта Досіна паведаміла, што пасля таго, як эфектыўнасць будзе даказана на жывёлах, *“у снежні 2023 года выйдзем на рэгістрацыю прэпарата”.*

Таксама яна адзначыла, што беларуская вакцына, якая распрацоўваецца разам з расійскімі вучонымі-медыкамі, абароніць ад новага штама каранавіруса.

**Ігар СТАСЕВІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Нары падзялілі па-брацку

*Па выніках візіту ў Мінск міністра замежных спраў Расіі Сяргея Лаўрова стала вядома, што абмяркоўвалася сітуацыя з вязнямі-грамадзянамі Расійскай Федэрацыі, якія адбываюць пакаранне ў беларускіх турмах і калоніях.*

*«Мы абмяркоўвалі сёння сітуацыю з грамадзянамі Расіі, якія затрыманы ў Беларусі. Мы будзем кіравацца працэдурамі, якія існуюць»*, – працытавала Лаўрова інфармацыйнае агенцтва БЕЛТА.

Зразумела, што самая вядомая з вязняў – **Сафія Сапега**, якой 10 лютага гэтага года споўніцца 25 гадоў. Яна была затрымана разам з Раманам Пратасевічам падчас пасадкі самалёта Raynair, пайшла на супрацоўніцтва са следствам, але ўсё роўна была асуджана на шэсць гадоў пазбаўлення волі па абвінавачванні ў распальванні варожасці і незаконным распаўсюдзе звестак аб сілавіках. Сафія напісала прашэнне аб памілаванні на імя Аляксандра Лукашэнкі, ён нават гаварыў, што *“шкада дзяўчыну”*, але яе просьбу пакінуў без задавальнення.

Пасля заявы Сяргея Лаўрова СМІ зрабілі выснову, што падчас візіту абмяркоўваўся менавіта лёс Сафіі Сапегі. Між тым грамадзян Расіі ў беларускіх турмах значна больш.

У мінулым годзе пасольства Расіі ў нашай краіне паведамляла, што ў беларускіх турмах і калоніях адбывалі пакаранне больш за 300 расіян, яшчэ каля сотні чакалі вынясення прыгавораў у СІЗА.

У Маскоўскай Хельсінкскай групе паведамлялі, што крымінальны пераслед як мінімум 11 грамадзян РФ быў звязаны менавіта з пратэстамі пасля прэзідэнцкіх выбараў 2020 года.

Лёс некаторых з гэтых людзей з таго часу змяніўся.

Так, **Аляксандру Геджадзе** суд Фрунзенскага раёна Мінска прысудзіў тры гады калоніі па абвінавачанні ў арганізацыі і падрыхтоўцы дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак. Наколькі вядома, такое пакаранне было вынесена за тое, што Аляксандр на каршэрынгавым аўтамабілі перавозіў шыны, з якіх потым, як палічылі следства і суд, мітынгоўцы будавалі барыкады. Аляксандр адбываў пакаранне ў Наваполацкай калоніі, але ў мінулым годзе быў пераведзены ў расійскую калонію. Геджадзе стаў першым палітзняволеным-расіянінам, якога Беларусь перадала Расіі.

Па тым жа артыкуле, а таксама за *«незаконнае перасячэнне мяжы»* ў Беларусі быў асуджаны **Андрэй Новікаў**, які падчас выбараў з’яўляўся валанцёрам каманды Святланы Ціханоўскай.

Новікаў нарадзіўся ў беларускім Варапаеве, пасля школы паехаў вучыцца ў Расію, жыў на Далёкім Усходзе, служыў у міліцыі, мае званне падпалкоўніка ў адстаўцы. Двойчы ўдзельнічаў у ваенных аперацыях на тэрыторыі Чачні. Пасля вярнуўся ў Беларусь, жыў на Пастаўшчыне. Новікава яшчэ ў 2020 годзе дэпартавалі з Беларусі, забараніўшы ўезд у краіну на 10 гадоў. Але ён вярнуўся да сям’і. У выніку – новы суд і 2,5 года калоніі. Тэрмін пакарання скончыўся 31 кастрычніка мінулага года, пасля чаго мужчыну дэпартавалі ў Расію і перадалі ФСБ.

16 гадоў зняволення ў Беларусі атрымаў расіянін **Дзмітрый Папоў** – мадэратар сацсетак Сяргея Ціханоўскага. Справа разглядалася ў закрытым судовым пасяджэнні, таму цяжка сказаць, за што канкрэтна яго асудзілі. Згодна з апошняй інфармацыяй, у кастрычніку мінулага года Папоў быў пераведзены з бабруйскай калоніі ў жодзінскую турму.

Расіянін **Ягор Дуднікаў** быў асуджаны на 11 гадоў зняволення за «распальванне варожасці і заклікі да дзеянняў, накіраваных на прычыненне шкоды нацыянальнай бяспецы Беларусі». У чэрвені мінулага года ўмовы адбыцця пакарання яму зрабілі больш жорсткімі, і Дуднікаў быў пераведзены з калоніі ў турму.

На 10 гадоў зняволення ў Беларусі асуджаны жыхар Чабаксар **Антон Лысаў**. Ён – адзін з тых, каго абвінавацілі ў падпале аўто старшыні Дзяржаўнага камітэта судовых экспертыз **Аляксея Волкава.**

Самы вялікі тэрмін зняволення беларускі суд “адмераў” 34-гадоваму **Андрэю Паднябеннаму** – 16 гадоў і восем месяцаў зняволення. Ён грамадзянін Расіі, хаця з шасці гадоў жыве ў Беларусі. КДБ унёс Паднябеннага ў спіс асоб, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці. І разгляд справы, і нават зачытванне прыгавора ў Гомельскім абласным судзе праходзілі ў закрытым рэжыме. Але неафіцыйна вядома, што ён падпаліў міліцэйскі аўтамабіль і пракалоў шыны некалькіх дзясяткаў тралейбусаў.

За абразу прадстаўніка ўлады і хуліганства на 1,5 года калоніі быў асуджаны ваенны пенсіянер, грамадзянін РФ **Ігар Капанайка**. Ён быў пакараны за тое, што заліў мантажнай пенай дзверы супрацоўніцы міліцыі. Капанайка цалкам адбыў пакаранне і ў сакавіку мінулага года быў дэпартаваны ў Расію.

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

СІТУАЦЫЯ

# Нары падзялілі па-брацку

*(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)*

За рэп уласнага сачынення адзін год зняволення атрымаў расіянін **Яўген Пятроў**. Яго асудзілі па артыкуле “Абраза прэзідэнта”. Пакаранне скончылася летам мінулага года, пасля чаго Яўгена дэпартавалі ў Расію.

Паводле артыкула аб «паклёпе на прэзідэнта» ў Беларусі пакаранне прызначылі і 58-гадовай **Ірыне Віхольм**. Расіянка размясціла ў твітары рэпост артыкула рускай службы Бі-Бі-Сі аб пасадцы ў Мінску самалёта з Раманам Пратасевічам і Сафіяй Сапега, дадаўшы да яго свой каментар. Пасля адбыцця пакарання, у верасні мінулага года, яна была дэпартавана ў Расію з забаронай уязджаць у Беларусь на працягу 10 гадоў.

Адсядзеў год і ўжо выйшаў з беларускай калоніі расіянін **Даніла Чамаданаў**. Ён правініўся тым, што разам з іншымі вадзіў карагод у Брэсце. Як паведамляюць расійскія праваабаронцы, Даніла за ўвесь тэрмін зняволення ні разу не бачыў расійскага консула.

Такім чынам, заклапочанасць Лаўрова лёсам арыштаваных у Беларусі грамадзян не выглядае шчырай. Усім зразумела, што, каб Расія хацела, – даўно б дабілася іх вызвалення. Хаця гісторыя Сафіі Сапегі мела ў Расіі вялікі рэзананс. Справа ў тым, што незаконнае распаўсюджванне звестак аб тых ці іншых асобах у Расійскай Федэрацыі караецца штрафам ці папраўчымі работамі, а распальванне нянавісці альбо варожасці першы раз увогуле караецца толькі адміністрацыйна. Такім чынам, прысуд у шэсць гадоў пазбаўлення волі, вынесены Сафіі беларускім судом, і для юрыстаў, і для журналістаў, і для праваабронцаў стаў своеасаблівым шокам. Таму і ўзнялася кампанія ў абарону дзяўчыны. Ну а тое, што па тых жа абвінавачваннях у Беларусі выносяцца і значна больш жорсткія прысуды, ні Лаўрова, ні шырокую расійскую грамадскасць проста не цікавіць.

КАМПЕТЭНТНА

## Што меў на ўвазе міністр Лаўроў, калі казаў пра “працэдуры, якія існуюць”?

Гэта можна зразумець са слоў **Антона Гашынскага**, адваката Сафіі Сапегі:

– Цяпер будзем прасіць, каб яе адправілі адбываць пакаранне ў Расійскую Федэрацыю. У далейшым у яе будзе права звярнуцца да прэзідэнта Расіі з просьбай аб вызваленні ад адбыцця часткі пакарання, якая застанецца. Далей запускаецца досыць працяглая працэдура па пераводзе ў Расію. Але для пачатку на гэта павінен пагадзіцца беларускі бок. Аляксандр Лукашэнка заяўляў, што ён не супраць гэтага, таму будзем спадзявацца, што Сафію адправяць у Расію. Запыт мы пададзім найбліжэйшым часам, – адзначыў Гашынскі.

Іван ШАЎЛЮК.

НЕАФІЦЫЙНА

# Застанемся без еўрапейскай бытавой тэхнікі і электронікі?

Еўрасаюз мае намер увесці 10-ы пакет санкцый супраць Расіі ў гадавіну поўнамаштабнага ўварвання ва Украіну, але новыя санкцыі супраць Беларусі могуць быць уведзены раней. Прынамсі, такую інфармацыю са спасылкай на неафіцыйныя крыніцы пачалі распаўсюджваць некаторыя замежныя медыя.

Як паведамляе польская радыёстанцыя RMF, Еўрасаюз абмяркоўвае магчымасць поўнага эмбарга на пастаўкі ў Беларусь узбраенняў і тавараў двайнога прызначэння, паколькі менавіта праз Беларусь Расія можа імпартаваць з Захаду некаторыя элементы ўзбраенняў.

У ліку магчымых санкцый супраць нашай краіны RMF таксама называе забарону на экспарт з ЕС электронікі, бытавой тэхнікі і прадметаў раскошы. Радыёстанцыя са спасылкай на крыніцы ў Еўракамісіі кажа, што санкцыі будуць таксама накладзены на беларускія банкі, таму што расіяне ездзяць у Мінск, каб здымаць валюту ў банкаматах.

Пры гэтым, як сцвярджае радыёстанцыя, шэраг краін ЕС, уключаючы Германію, выступаюць супраць ідэі поўнай сінхранізацыі беларускіх санкцый з расійскімі. Іх пазіцыя: пакуль беларускія ўзброеныя сілы фізічна не далучыліся да непасрэднага ўдзелу ва ўкраінскім канфлікце, неабходна пакназваць розніцу з антырасійскімі санкцыямі.

Падкрэсліваем: гэта інфармацыя трывожная, але неафіцыйная.

Алег СНОЎ.

РЭАЛІІ

# Літоўцы нічога не згубілі



У канцы 2021 года Літва, падтрымліваючы санкцыі супраць Мінска, адмовілася ад транзіту салігорскіх калійных угнаенняў, з-за чаго Літве прарочыліся шматмільярдныя страты. У рэшце рэшт Клайпедскі порт не толькі нічога не згубіў, а дабіўся рэкорднага грузаабароту: гадавы рост – 57 працэнтаў.

Дарэмна нашы чыноўнікі палохалі літоўцаў. Ці не лепш было б прыкладаць усе намаганні для таго, каб з Беларусі былі зняты ўсялякія санкцыі?

ФАКТ

# Цены на газ в Европе ниже, чем до войны в Украине

Европа преодолела свою зависимость от ископаемого топлива из России, считает председатель Комиссии ЕС фон дер Ляйен. Заполненные газовые хранилища также оказывают благоприятное воздействие на цены.

По сравнению с августовским пиком в 350 евро за мегаватт-час, цены на газ в Европе в этом месяце упали на 80 процентов, сказала фон дер Ляйен на Всемирном экономическом форуме в Давосе. «Это ниже, чем до войны в Украине».

В качестве причины такого развития событий фон дер Ляйен назвала совместные усилия ЕС. Европа преодолела свою зависимость от ископаемого топлива из России и заменила около 80 процентов российского трубопроводного газа, сказала она. Кроме того, газовые хранилища были заполнены, а спрос сократился – более чем на пятую часть в период с августа по ноябрь.

На фоне войны в Украине и резкого сокращения поставок российского газа в Европу цена на газ стремительно росла в 2022 году, достигнув пика в августе. Когда в феврале прошлого года началась война в Украине, газ стоил около 120 евро за мегаватт-час. Совсем недавно, цена составляла от 50 до 60 евро за мегаватт-час. Одной из причин этого является мягкая зима.

БЛИЦ-КОММЕНТАРИЙ

# Зря кололи дрова...

Телекартинка, как 14 сентября 2022 года Александр Лукашенко с бизнесменом Сергеем Тетериным кололи дрова, прокручивалась по БТ много раз.

Глядя, на впечатляющие кругляки, Тетерин, помнится, заметил:

– Хорошие…

– Хорошие, – подтвердил Лукашенко. – Не дадим, Семеныч, Европе замерзнуть. Поможем нашим братьям! Может, и они когда-то нам помогут.

– Александр Григорьевич, вы думаете обо всех. И о Европе, и обо всей планете, – будто произнося тост, торжественно отозвался Тетерин.

– Ну а как?! – развел руками Лукашенко. – Мы же центр Европы, хвастаемся этим…

Честно говоря, мне сюжет напоминал юмористическую сценку из некогда популярной программы «Городок». Хотя знаю по разговорам с некоторыми людьми, они, наглядевшись телевизора, не видели в рассказах о замерзающей Европе ничего смешного. И уж тем более не видели этого провластные пропагандисты.

Небезызвестный **Игорь Тур**, не разобравшись толком дрова рубят или все-таки колют, бодро рапортовал, что минутный ролик с Лукашенко и Тетериным набрал миллионы просмотров на различных интернет-платформах и демонстрировался в сюжетах телеканалов разных стран. А все почему? Потому что Александр Лукашенко, по его мнению, *«затроллил всю европейскую демократию, все уверенные замерзающую из-за собственных антироссийских санкций»*.

*«Чем вы будете топить, дровами? – спрашивал когда-то Путин. Вот, время пришло, и та шутка больше не смешная для Европы. Ведь за дровами из Беларуси и других, как они уверяют, изолированных стран, придется придти. Потому что советы немножко померзнуть ради Украины и чуть реже мыться горячей водой ради Зеленского вряд ли объединят Евросоюз и его граждан»*, – убеждал всех и себя самого Игорь Тур.

Беларусь, кстати, действительно предлагает дрова на экспорт. Из дуба, граба, березы, ольхи, сосны, осины… Но если бы случился резкий скачок такого экспорта, то, поверьте, об этом власти давно бы отрапортовали. Увы…

Кстати, в ставшем знаменитом ролике, Лукашенко и Тетерин кололи дрова из ели.

– Елка, она такая тягучая, – сопя от усилий, рассуждал Тетерин.

– Тягучая… – согласился Лукашенко. – Но, слушай, Европе не выбирать сейчас: елка, березка… Им главное, чтобы тепло было… Надо подумать, Семеныч, как там, чтобы крестьяне, рабочие получили, а не богачи. И главное, чтобы в Польше Дуда (*президент Польши.* – **Прим.**) и Моравецкий (*премьер-министр Польши.* – **Прим.**) не замерзли…

-- Ну, это же наши соседи…

-- Может, одумаются…

И если в исполнении Александра Лукашенко была демонстрация заботы о польских крестьянах и рабочих, то у одиозного **Андрея Муковозчика** в «СБ: Беларусь сегодня» получилось именно по поводу «богачей». Дуду, Моравецкого, Макрона (*президент Франции.* – **Прим.**), Урсулу фон дер Ляйен (*председатель Еврокомиссии.* – **Прим.**) он сделал героями своего варианта «современного европейского романа». На роман это, конечно, не тянет. Не тянет даже на анекдот. Впрочем, судите сами.

*«Из окон дворца-нуворишa доносился визгливый голос Дуды: «Моравецкий! Вы, cholera jasna, обещали мне, что газа хватит до весны! Вы, kurwa mać, говорили нации, что бензин вы отберете в Украине! Вы, psia krew, обманули и меня, и нацию?!»*

*Заикаясь то ли от волнения, то ли от холода, голос, похожий на Моравецкого, блеял в ответ дрожащим тенором:*

*Ах, пани, панове… ах, пани, панове…*

*Ах, пани, панове, тепла нет ни на грош.*

*Что было, то сплыло, что было, то сплыло,*

*Что было, то сплыло, того уж не вернешь.*

*А перед окном мужики деловито рубили дрова».*

Что сказать? Некоторые польские ругательства Муковозчик знает. Знаком даже с творчеством Булата Окуджавы (это именно его стихи). А вот с политическими и экономическими прогнозами не получается. Сбываются у набившего оскомину Муковозчика они с точностью до наоборот. Ну, не замерзла Польша, не замерзла Европа, все действующие лица его «романа» остаются на своих постах, а об уровне комфорта жизни европейцев, как вы понимаете, нам остается только мечтать.

Надо ли говорить, что прогнозами «пальцем в небо» у нас отметились многие оплачиваемые пропагандисты?

**Марат Марков** на ОНТ еще недавно рассказывал, что из-за дефицита газа европейцы этой зимой не будут мыться. А **Иван Эйсмонт**, глава Белтелерадиокомпании, даже дальше пошел и «процитировал» по этому поводу главу МИД Германии Анналену Бербок.

«Знаменитая глава МИД Германии Бербок вот что заявила: “Уж лучше я буду пахнуть как бездомный, чем буду лить воду на мельницу Путина в душе”. Глава МИД Германии не моется в душе, я надеюсь, что она хотя бы не пахнет пока, обтирается», – рассказал Эйсмонт в эфире «Клуба редакторов». Хотя на самом деле, «*попахивала*» тут цитата. Потому что ничего такого глава внешнеполитического ведомства Германии не говорила. Это был фейк российской пропаганды.

Впрочем, к чему я цитирую всю эту чушь, которая, откровенно говоря, не стоит ничего, кроме высмеивания?

А к тому, что на основе подобного «*политического анализа и прогноза*» у нас строится государственная политика. Как результат – уже на самом верху власти беспокоятся о замерзающей Европе не как о явлении, придуманном в головах пропагандистов, а как о чем-то реальном. И в этом смысле миллионы просмотров сюжета с «рубкой дров», которыми похвалялся Игорь Тур, становятся, мягко говоря, очень сомнительным комплиментом. Потому что баба Маня, сидящая у телевизора, может быть внушаемой и доверчивой. Но не человек, являющийся одним из самых опытных политиков на территории СНГ…

Есть ощущение, что хвост начал вилять собакой. И уже пропаганда определяет политику, а не наоборот.

Но все-таки, почему мы всю осень слышали про грядущий энергетический кризис в Европе, холод в домах, отсутствии горячей воды? Да все просто. Процитируем того же Игоря Тура.

*«Как бы ни выкручивали санкции на Западе, рано или поздно Берлин, Париж и Брюссель придут в точку, где их люди вынудят политиков покупать российские энергоресурсы или напрямую, или через посредников. Потому что холодные батареи горячие популистские сердца остужают очень быстро»*, – обещал он.

Но не сбывается! И батареи в Европе не холодные, и сердца не остыли. Подавляющее большинство граждан Евросоюза поддерживают дальнейшую поддержку Украины, которая мужественно сражается против российских агрессоров. Об этом, как сообщает издание Politico, свидетельствуют результаты последнего опроса «Евробарометра».

На вопрос, одобряют ли они позицию блока по поддержке Украины, 74 процента ответили «да», а треть сказали, что они «решительно» одобряют.

Почти столько же – 73 процента – сказали, что они согласны с финансовой, военной и гуманитарной помощью ЕС Украине, а также с санкциями против России.

Да, в разных странах ситуация разная. Поддержка Украины со стороны ЕС пользуется большей популярностью в скандинавских странах, Нидерландах, Ирландии и Португалии, где ее одобряют более 90 процентов населения. А вот в Греции, Словакии, Болгарии и на Кипре меньше половины граждан заявили, что одобряют действия ЕС в отношении Украины. Но на то она и демократия, чтобы мнения были разными.

В любом случае, если говорить о Евросоюзе, то консенсус по поводу отношения к тому, кто развязал войну, неоспорим. А вот белорусским властям следовало бы задуматься над тем, почему не сбываются их прогнозы. Ни по поводу скорой победы России в этой войне, ни по поводу того, что «*сытые европейцы не встанут с диванов и ничем не пожертвуют ради какой-то Украины*», ни по поводу того, что Европа замерзнет, а европейцы взбунтуются против своих правительств и вынудят отменить санкции.

Да и вообще, стоит задуматься над тем, почему мы, считая себя европейцами и даже центром Европы, объявили войну европейским ценностям? Правильно ли это? Ради кого? Ради чего?

Светлана КАЛИНКИНА.

ПАМЯЦЬ

# «Не ўсе нашы лясы згарэлі, не ўсе пасечаны сады...»







Сабраць том выбраных твораў заўчасна памерлага Юркі Голуба прапанаваў мне яго даўні сябар Алесь Жук. "Збяры ты Юркавы кніжачкі, у тым ліку самвыдатаўскія, ён марыў пра добрае выбранае. І пра творцаў Гродзеншчыны ёсць у Юркі выдатныя артыкулы. Зрабі, Міхась".

І я зрабіў. Прыкладна год пайшоў на тое, каб падрыхтаваць да друку ладны том на 560 старонак пад назвай "Дыханне трыснягоў: паэзія, эсэ, артыкулы, абразкі, эпісталярый", які пабачыў свет летась, акурат да 75-годдзя Юркі Голуба.

Уклаўшы творчую спадчыну земляка і напісаўшы прадмову, я зразумеў, што кнізе не хапае пасляслоўя – сяброўскага, развітальнага. І звярнуўся да Алеся Аляксандравіча – напішыце. Усё ж у вас за спінай больш за паўстагоддзя сяброўства з Голубам, якое пачалося ў далёкім 1965-м, са студэнцкай лаўкі.

Жук пагадзіўся, але чамусьці не спяшаўся выканаць маю просьбу. Кніга ўжо вярсталася, угодкі набліжаліся, а абяцанага пасляслоўя не было.

Пісьменніцкая творчасць – справа асабістая, таемная, і падганяць, тым больш прымушаць Алеся Жука я не мог. Ведаў пра яго хваробы, бачыў, як цяжка яму даецца сядзенне за пісьмовым сталом. Падчас кожнай тэлефоннай размовы Алесь Аляксандравіч супакойваў мяне, маўляў, "слоўца пра Юрку" ўжо "зляпілася" ў ягонай галаве, застаецца толькі перанесці на паперу. Ды нешта ўсё не пераносілася.

Не дачакаўшыся, я набраўся нахабства, прыйшоў да Жука з дыктафонам і прапанаваў яму нагаварыць тое пасляслоўе. Алесь Аляксандравіч катэгарычна адмовіўся і патлумачыў, што ён – пісьменнік, а значыць павінен пісаць, а не дыктаваць. І паказаў старонку ўжо напісанага тэксту, нават прачытаў некалькі сказаў услых ("як табе пачатак?"). Захацеў нешта паправіць, і тут я пабачыў, з якімі намаганнямі Жуку даводзілася пісаць, скручаныя артрытам пальцы ледзь трымалі асадку. Сам працэс пісання прыносіў яму фізічныя пакуты, і маларазборлівы почырк выглядаў як трывожная кардыяграма (пісьменнік раней перанёс складаную аперацыю на сэрцы).

І ўсё ж слова пра сябра было напісана – праз нямогласць, праз боль. Свой пісьменніцкі і сяброўскі абавязак Алесь Жук выканаў.

З гэткім самым пераадоленнем нямогласці і болю пісалася і апошняя, пакуль нявыдадзеная кніга эсэ пра тых, з кім Жук сябраваў, з кім яго зводзілі жыццёвыя дарогі, – пра гісторыка Мікалая Улашчыка і паэтку Ларысу Геніюш, пра старэйшых і равеснікаў па літаратурным цэху Міхася Стральцова, Рыгора Семашкевіча, Яўгенію Янішчыц...

Пасля Юркі Голуба Алесь Жук намерваўся напісаць пра сябра і паплечніка Анатоля Кудраўца, чыю кнігу "За дальнім прычалам" лічыў узорам у жанры літаратурнага партрэта. Не паспеў. Відаць, таксама толькі ў галаве "зляпілася".

Згадаўся Кудравец, і ўспомнілася, як Алесь Жук аднойчы падараваў мне свой двухтомнік. Разгарнуўшы першы том, я са здзіўленнем пабачыў на тытуле аўтограф: "Анатолю Кудраўцу – з тым, што не ўсе нашы лясы згарэлі, не ўсе пасечаны сады. 6.07.1993. А. Жук". Падумалася, што Алесь Аляксандравіч проста памылкова зняў з паліцы не тыя тамы. Аказалася – якраз тыя. "Ты ж таксама прозу Кудраўца любіш, вазьмі, лішнім у тваёй бібліятэцы Толеў двухтомнік не будзе," – сказаў Жук. І расказаў, як яны з Кудраўцом сабраліся адзначыць выхад таго двухтомніка. Цэлы дзень адзначалі і наадзначаліся так, што Анатоль Паўлавіч у вясёлым самазабыцці адбыў дахаты, забыўшыся на падарунак...

Што ж, умелі сябры і за бяседным сталом нясумна пасядзець, і неслабую чарку ўзяць. Але ж і пісаць умелі!

Мала хто ведае, што Алесь Жук у маладосці пісаў і друкаваў вершы, наведваў на філфаку БДУ паэтычнае літаб'яднанне "Узлёт", якім кіраваў прафесар Алег Лойка. Неяк я запытаўся ў Алеся Аляксандравіча, ці не губляецца адчуванне рыфмы ў празаіка, які ў маладосці грашыў вершамі. Аўтар двух тамоў дабротнай прозы іранічна пасміхнуўся, зняў з паліцы сваю кнігу "На дазорнай сцяжыне" і сходу напісаў на тытуле вершаваны інскрыпт: "Самалёты маюць соплы, / зграя мае важака, / а бібліятэка Скоблы / мецьме поўны збор Жука!".

Рыфму і музыку верша ён адчуваў як мала хто з паэтаў, паэтычных твораў памятаў безліч, у размове любіў працытаваць радкі Стральцова, Пысіна, Гаўрусёва, Ахматавай, Буніна, Салаухіна... Пра Буніна Алесь Жук ведаў усё. Праўда, і ён не разумеў, як аўтар "Антонаўскіх яблыкаў" і "Чыстага панядзелка" ўсяго за пяць гадоў прашэйгаў Нобелеўскую прэмію і потым амаль галадаў, жывучы на скупыя ахвяраванні сяброў.

Свежавыдрукаваны том Юркі Голуба я адразу завёз Алесю Жуку – як ініцыятару выдання. Яму спадабалася рознажанравасць кнігі, для першачарговага чытання ён пазначыў закладкай дзённік паэта. І паабяцаў неяк паказаць *свае* дзённікі, выказаўшы клопат, ці знойдзецца каму падрыхтаваць іх да друку. Каб не напаткаў іх лёс дзённікаў Янкі Брыля, калі фактычна не выконваецца апошняя воля пісьменніка адносна іх публікацыі.

Прыкладна за тыдзень да сыходу Алесь Аляксандравіч пазваніў каля поўначы – мы з ім былі "совамі" і мелі дамову накont позніх званкоў. Пазваніў проста так, без пільнай патрэбы – "захацелася пачуць твой голас". Прызнаўся, што нядужыцца, але "нічога, Ніна дагледзе". Жонка Ніна Мікалаеўна сапраўды цярпліва і клапатліва даглядала яго.

Пагаварылі пра нядаўна ўсталяваны помнік на магіле Юркі Голуба. Жук сказаў, што добра было б выбіць на надмагільнай пліце радкі, якія гучаць як аўтаэпітафія: "На дзіва маладыя дні / у краі сонечным і росным. / І ты не думаеш ані, / што і памерці тут зайздросна". Згадалі і пра дзённікі, якія Алесь Аляксандравіч лічыў пасмяротным жанрам.

І вось – настала пасмерце. Хочацца спадзявацца, што сустрэнуцца з варштатам Скарыны і дзённікі Алеся Жука, і кніга мемуарных эсэ, дзе будзе і слова пра Юрку Голуба – апошні твор пісьменніка. А пакольки наклад кнігі "Дыханне трыснягоў" мізэрны (усяго 150 асобнікаў), то, думаецца, не лішнім будзе тое слова і на старонках "Народнай Волі".

**Міхась СКОБЛА.**

**На фота: 1.Алесь Жук. Адзін з апошніх здымкаў. 2. Студэнты БДУ І. Станкевіч, А. Жук і Ю. Голуб. 1965 г. 3. Ю. Голуб і Р. Барадулін пасля сустрэчы з чытачамі. 1985 г.**

# А зорнае святло засталося...

Друкавацца Юрка Голуб пачаў рана, як і большасць з нас, хлопцаў-першакурснікаў, якіх на беларускім аддзяленні філфака БДУ быў з дзясятак. Выкладчыкі ведалі, што мы паступілі вучыцца на пісьменнікаў і адносіліся да нас з увагай і павагай. Голуб быў вядомы найбольш і ўжо друкаваўся даволі рэгулярна. З Юрам мы жылі ў студэнцкім інтэрнаце ў адным пакоі, на лекцыі хадзілі разам, сядалі побач звычайна на апошнім радзе, бо лекцый не канспектавалі, а пісалі свае першыя кнігі.

На занятки мы хадзілі праз Купалаўскі сквер, так мінчане называлі Цэнтральны сквер, пакуль у ім стаяў бюст Купалы. А перад скверам быў кіёск "Саюздруку", у якім мы рэгулярна куплялі газеты. А паколькі мы былі пакупнікі пастаянныя, то маглі набыць і тое, што не заўсёды ляжала на прылаўку. Гэта былі газета "Życie Warszawy" і сатырычны часопіс "Szpilki". У "Życie Warszawy" можна было прачытаць тое, чаго не было ў савецкіх газетах.

Наш сябар Рыгор Семашкевіч, які скрупулёзна збіраў усё новае, што з'яўлялася ў друку пра Ганну Ахматаву, знайшоў у гэтым выданні невядомыя яму факты. Ілюстраваны часопіс "Szpilki" з сатырычнай падсветкай асвятляў сацыялістычнае жыццё ў Польшчы, закранаў таксама тэмы эратычныя і сексуальныя, часам гэта рабілася дасціпна, а часам даволі бессаромна.

У тым скверы Юра прачытаў мне неяк верш пад назвай "Адчайнае пра мову", які нарадзіўся на хаду: "Твой голас ціхім не слыў, / светам даўно прызнаны. / А сціхнеш – пайду ў лясы, / як бацькі ішлі ў партызаны".

Мы абодва ведалі, што гэтага верша ніхто не надрукуе, ніякая цэнзура яго не прапусціць. Я думаў, што верш знік у забыцці гадоў, неяк пры сустрэчы нагадаў Юру пра яго. Ён усміхнуўся і сказаў, што верш надрукаваны ў зборнічку "Поруч з дажджом", ужо ў XXI стагоддзі.

У 1960-я гады рэпрэсаваныя ў часы сталіншчыны пісьменнікі былі рэабілітаваныя, але творы іхнія яшчэ не перавыдаваліся і былі практычна недаступныя для шырокага кола чытачоў. Дзякуючы Семашкевічу ці некаму іншаму з выкладчыкаў, мы з Юрам займелі чытацкія білеты ў навуковую залу Ленінкі (цяпер Нацыянальная бібліятэка). Там мы мелі доступ да бібліяграфіі і магчымасць заказваць патрэбную нам літаратуру. Перакусіўшы ў факультэцкім буфеце, мы, як на працу, хадзілі ў бібліятэку, пакуль не перачыталі ўсе падшыўкі "Полымя", "Маладняка", "Узвышша", цэлую гару забароненых раней кніг.

Я ўжо гаварыў пра дэмакратычнасць факультэцкіх выкладчыкаў, але роўных загадчыку кафедры беларускай літаратуры Міхасю Рыгоравічу Ларчанку не было. На лекцыях па старажытнай беларускай літаратуры ён прасвячаў студэнцкую аўдыторыю вершамі маскоўскіх паэтаў-шасцідзесятнікаў – Еўтушэнкі, Раждзественскага, Ахмадулінай, Салаухіна (дагэтуль помню яго "Ваўкоў"). Але найбольш чытаў вершы пра каханне – на радасць студэнтакам, і тады вочы яго свяціліся маладымі зялёнымі агеньчыкамі.

Таксама дэмакратычна прымаў Ларчанка залікі і экзамены. Неяк у дзень заліку Юру спатрэбілася па дарозе на факультэт аднесці пераклады вершаў Анатолю Вялюгіну. Той складаў зборнік вершаў Хаіма Мальцінскага, многія пераклады заказаў Семашкевічу і Голубу. У той час, як мы прыйшлі, у Вялюгіна гасцілі кіношнікі, для якіх ён паспяхова пісаў сцэнарыі дакументальных фільмаў. Ведома ж, мы былі далучаныя да застолля і ледзь паспелі на залік – ужо заўважна захмялелыя. На наша шчасце, Міхась Рыгоравіч папрасіў сабраць залікоўкі і пакласці яму на стол. Потым браў залікоўку, падымаў студэнта для адказу з месца і ставіў залік. Гэта і выратавала нас з Юрам, бо потым было б вельмі няёмка перад паважаным чалавекам.

Блізкім наша сяброўства з Юрам было да канца вучобы, а потым я пайшоў у войска, а Голуб стала атабарыўся ў Гродне. Працаваў у "Гродзенскай праўдзе", а потым доўгі час на абласным тэлебачанні. Быў я ў яго першай кватэры, двухпакаёўцы на ўскраіне, раён яшчэ працягваў забудоўвацца.

Праз акно з кухні была відаць пустка з абломкамі жалезабетонных пліт, іншае будаўнічае смецце. Заўважыўшы, што Юра глядзіць на мяне і чагосьці ўсміхаецца, я спытаўся – чаго?

"Вось так Васіль Быкаў сядзеў на тваім месцы і ўсміхаўся. Я таксама спытаўся – чаго?" – "Я, Юра, не здзіўлюся, калі з-за бетонных абломкаў пакажацца галава і бінокль у руцэ", – пажартаваў Быкаў. Ён тады ў Гродне перажываў не лепшыя часіны ў жыцці, таму і стараўся залішне не маячыць у горадзе.

Быў я і ў новай кватэры Голуба, ужо чатырохпакаёвай, на праспекце Будаўнікоў. Аднойчы, будучы ў Мінску, ён сказаў мне, што "бацькі горада" намервающца дапамагчы пісьменнікам з жыллём, і што не зашкодзіла б заслаць ім адпаведнае пісьмо ад Саюза пісьменнікаў. Мы зайшлі ў СП да Івана Чыгрынава. Той ахвотна адгукнуўся на просьбу, сказаў, што пісьмо сачыніць на найвышэйшым узроўні. Не ведаю, што найбольш спрацавала: найвышэйшы ўзровень пісьма, ці тое, што ўся Гродзеншчына добра ведала Голуба як тэлевядучага літаратурных перадач.

У мяне ёсць усе Голубавы кніжкі, я многа памятаю асобных вершаў, строф, радкоў, нават мыслю імі. Але ўсё напісанае паэтам я прачытаў толькі пасля таго, як яго не стала. Прачытаў і зразумеў, што ёсць паэзія Юркі Голуба, і сам ён сёння зусім па-іншаму бачыцца – як паэтычная постаць, а не аўтар паасобных вершаў. Ёсць цэлы паэтычны свет паэзіі Голуба. Ён валодаў сваім, толькі яму ўласцівым моўным ладам, на дзіва беларускім нават сваім унутраным гучаннем.

Талент Юркі Голуба мог рэалізавацца толькі ў беларускім нацыянальным асяроддзі, існаваць толькі ў ім. Гэту сутнасць паэзіі Голуба адразу адчулі прафесіяналы. Старэйшы і больш вопытны ў літаратуры Вячаслаў Адамчык, пішучы аўтограф на сваёй кнізе з серыі "Бібліятэка беларускай прозы", пачаў з галоўнага: "Нацыянальнаму паэту Юрку Голубу"... І – далей свае пажаданні.

Голуб тонка адчуваў слова, знаёмае і прывычнае ён мог так уставіць у сказ, што яно набывала новае адценне, высвечвалася новым падтэкстам. "Глянула, як яблычак дала. / Кажушку расшпіленаму – воля. / І румянец шуганаў здаля / Маладым у росквіце вуголлем".

У гэтай страфе нечаканае бачанне свету і чалавека, свабода ў валоданні словам, метафарычнасць, асацыятыўнасць – характэрнае ўжо сталаму Голубу. Часам метафарычнасць ланцуговая, асацыятыўнасць занадта вольная. Я, асвойваючы яго вобразныя роскіды, бывала жартаваў: "Юра, а ты часам сам не заблытваешся ў сваіх асацыяцыях і метафарах?". Ён аджартоўваўся: "Каму дадзена, той разбярэцца, каму – не, то і не трэба".

Або вось такія два радкі: "За дымкамі і вербам цяплей / На халоднай дарозе планеты". Гэта яшчэ і адказ на пытанне, адкуль пачынаецца Радзіма – ад гэтых самых вербаў у канцы вёскі.

Не абмінаў паэт і жыццёвай надзённасці, нават публіцыстычнасці: "Гэты – сэрцам не высах / у людзях, сіняве. / Той жа – горлам у высях, / а сумленне ў хляве".

Гэта пра мяшчанства. А я і не думаў, што Юрка Голуб – мой саюзнік у ненавісці да мяшчанства, пасеянай у душы яшчэ Чэхавым.

У беларускай пасляваеннай паэзіі па нацыянальнай сутнасці таленту, па адметнасці ладу пісьма, па непаўторнасці мастацкіх прыёмаў, па асацыятыўнасці, метафарычнасці і ўменні валодаць моваю відавочна вырысоўваюцца дзве постаці – Рыгор Барадулін і Юрка Голуб. Іхняя паэзія пазнавальная з першага позірку.

Мне грэе душу веданне, што творчасць Юркі Голуба ўпарадкавана і пакінута нашчадкам – у выглядзе кнігі "Дыханне трыснягоў". Нездарма ж, дружа Юра, калісьці зашчымела табе беларускае слова. І ты змог распарадзіцца ім і сказаць як выдыхнуць: "А сягоння так прасторна ў свеце, / Як на дзень сяўбы ці кірмаша, / Што насеннем, кінутым на вецер, / Адляцела ў свет мая душа".

Душа адляцела, а зорнае святло яе навечна засталося над нашым прасторам асвятляць яго і саграваць.

**Алесь ЖУК.**

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ...

# Кому, кроме айтишников, в Беларуси платить самые высокие зарплаты?

Дальнобойщики остались в топе высокооплачиваемых вакансий, несмотря на санкции. Кому еще предлагают по несколько тысяч долларов в месяц?

Thinktanks.by проанализировал 50 самых высокооплачиваемых предложений, которые были опубликованы в ноябре минувшего года на нескольких популярных белорусских джоб-бордах. Анализ показал, что большую долю в зарплатном топе, кроме очевидных айтишников, занимают также вакансии для дальнобойщиков.

На сайте Rabota.by из топ-50 на водителей-международников приходилось 10 вакансий. А на сайте Praca.by – 20. Им предлагаются зарплаты от 1,4 до 2,5 тысяч долларов в месяц.

Оказывается, несмотря на сложные отношения с соседними странами и проблемы с логистикой, белорусские компании все равно активно ищут водителей-дальнобойщиков и готовы предлагать им высокие зарплаты.

Также достаточно много высокооплачиваемых вакансий для обычных водителей: 6 предложений в топе на Rabota.by и 3 – на Praca.by.

Кому нужны топ-менеджеры?

Кроме айтишников и водителей, рассчитывать на высокие зарплаты в Беларуси может высший менеджмент. Для него большинство вакансий размещено, как ни странно, в базе Государственной службы занятости.



В топ-50 самых дорогих вакансий в данной базе насчитывается целых 8 позиций от компании «Бел Хуавэй Технолоджис», которая в Беларуси занимается ремонтом и техобслуживанием модемов и другого оборудования HUAWEI. Данная компания искала директора с зарплатой в 12–15 тысяч рублей, а также специалиста по продажам, менеджера, инженера, маркетолога и других специалистов с обещанием довольно высоких зарплат (5–9,5 тысяч рублей).

Еще одна китайская компания – «Хуа Синь строительная компания», которая ведет строительство в «Великом камне», искала в ноябре заместителя директора на 8 тысяч рублей.

Также в базе Минтруда числилась вакансия для главы представительства компании «ЛГ Электроникс РУС» (российский производитель бытовой техники LG Electronics). Ему предлагается зарплата в 10–20 тысяч рублей.

Начальников подразделений с зарплатами от 5 до 11 тысяч рублей ищут себе такие компании, как Turkish Airlines, «Газпром трансгаз Беларусь», «УК Содружество-Бел», «Водород».

В зарплатных топах также оказались две позиции для врачей с планкой от 3,5 тысяч рублей: «Лодэ» искал аллерголога-иммунолога, а «Ленали» – стоматолога-терапевта.

Также имелось несколько высокооплачиваемых предложений для агентов недвижимости и менеджеров курсов английского языка.

### Рабочие тоже в топе

В топ высокооплачиваемых предложений также попадают рабочие специальности. Например, фасадчику предлагает 3,5–4 тысяч рублей компания промышленного сервиса «Синтел». А Stockroom logistics ищет комплектовщика заказов на склад «Яндекс Маркет» на 2,9–5,9 тысяч рублей.

По 3 тысячи рублей предлагают:
– каменщику («Партнёр Строй ЮС»),
– трактористу («РОДАНАГРО»),
– обвальщику мяса (Борисовский мясокомбинат № 1).

В целом, по данным Министерства труда, в ноябре наиболее востребованными специальностями были водитель, врач, уборщик, медсестра и продавец. А по информации Белстата, за десять месяцев текущего года наем увеличился лишь в таких отраслях, как производство электрооборудования и аппаратуры. В остальных сферах число принятых на работу падало, сильнее всего – в строительстве, торговле, транспортной и логистической деятельности.

Стефания МАЛЮТА.

ДА ВЕДАМА

## У Беларусі ўвялі новы спосаб разблакіроўкі карткі пасля няправільнага ўводу ПІН-кода

Зараз, каб разблакаваць банкаўскую картку пасля ўводу няслушнага PIN-кода, не абавязкова тэлефанаваць у банк. Дастаткова пазваніць па адзіным нумары, і карту аўтаматычна разблакуюць.

Як паведамляе Банкаўскі працэсінгавы цэнтр, аўтаматызаваная сістэма называецца Interactive Voice Response (IVR).

Цяпер, каб разблакаваць картку пасля няправільнага PIN-кода, дастаткова патэлефанаваць па тэлефоне +375 (17)299-25-25 з нумара мабільнага тэлефона, які быў указаны трымальнікам карткі ў анкеце банка пры афармленні банкаўскай аплатнай карткі і ўвесці апошнія 4 лічбы нумара карткі.

Пасля гэтага павінна адбыцца аўтэнтыфікацыя ўладальніка карткі па нумары мабільнага. Калі яна не адбудзецца – напрыклад, няправільна ўведзены чатыры апошнія лічбы нумара карткі, альбо калі тэрмін дзеяння карткі скончыўся ці картка знаходзіцца ў «гарачым» стоп-спісе, то IVR злучыць вас са спецыялістам Службы сэрвісу кліентаў.

Ганна ГАРДЫНЕЦ.

ЗДАРЭННЕ

## Напад на касцёл у Магілёве

У ноч з 19 на 20 студзеня невядомымі былі разбітыя шыбы ў вокнах кафедральнага касцёла Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Станіслава ў Магілёве – адной з найбольш гістарычна важных каталіцкіх святынь у Беларусі.

Былі пашкоджаныя вокны прэзбітэрыя, таксама разбітыя наскрозь шыбы капліцы Маці Божай Бялыніцкай і святога Антонія Падуанскага, у тым ліку пашкоджаныя вокны памяшканняў, дзе адбываюцца сустрэчы Легіёна Марыі і групы ананімных алкаголікаў. Таксама разбітыя вокны падвальных памяшканняў пад капліцай Маці Божай Бялыніцкай.

Як паведамляе сайт беларускіх католікаў, парафія звярнулася з адпаведнай заявай у РАУС Ленінскага раёна горада Магілёва для расследавання акту вандалізму і прыцягнення да адказнасці зламыснікаў, якія яго ўчынілі.



Нагадаем, раней неафіцыйна паведамлялася, што перад пажарам у Чырвоным касцёле ў Мінску, пасля якога храм зачынілі, невядомыя таксама разбілі вокны. Аб ходзе расследавання пакуль нічога не вядома.

Алег СНОЎ.

НЕСТАНДАРТ

## «Не царкоўная традыцыя»

19 студзеня па ўсёй Беларусі святары асвячалі месца для купанняў на Вадохрышча. А вось у Брэсце такога не было. Чаму?

Мясцовая праваслаўная епархія адмовілася ад асвячэння купеляў, паколькі традыцыя мае толькі ўскоснае дачыненне да духоўнага жыцця

Брэсцкая епархія БПЦ – адна з нямногіх у Праваслаўнай царкве, якая перастала падтрымліваць расійскую традыцыю «вадохрышчанскіх купанняў». Таму ў Брэсце 18 і 19 студзеня, калі праваслаўныя адзначалі свята Вадохрышча, адмовіліся арганізоўваць і асвячаць купелі для акунання. Пра гэта ў сваім тэлеграм-канале паведаміў старшыня гарвыканкама **Аляксандр Рагачук.**

«Улічваем пры гэтым пазіцыю і Беларускай праваслаўнай царквы аб тым, што дадзены абрад мае вельмі ўскоснае дачыненне да духоўнага жыцця», – патлумачыў ён.

Каб адзначыць свята, брэстчан запрасілі на літургію ў храмы.

Нагадаем, што ўпершыню ад практыкі асвячэння купеляў для «вадохрышчанскіх купанняў» у Брэсце адмовіліся ў 2019 годзе. Тады ў мясцовай епархіі пракаментавалі гэта рашэнне тым, што *"для многіх людзей традыцыйнае акунанне ў палонку на Вадохрышча – толькі зімовая забава і праверка ўласнай загартаванасці".*

У царкве падкрэсліваюць, што традыцыя не з'яўляецца царкоўным абрадам і не прадпісваецца царкоўным статутам. Прыдумалі яе не багасловы, а простыя людзі, якія здзяйсняюць гэты абрад выключна па ўласнай ініцыятыве. Пры гэтым распаўсюджанае ўяўленне аб ачышчэнні ад грахоў з дапамогай трохразовага апускання ў асвечаную палонку з'яўляецца памылковым. На самай справе Гасподзь даруе грахі толькі падчас споведзі.

Алена НОВІКАВА.



ЧУЛІ?

## Будуць ведаць, як завышаць цэны...

У Камітэце дзяржкантролю распавялі аб выніках праверак беларускіх крамаў на парушэнне цэнавага заканадаўства. У 2022 годзе КДК выявіў завышэнне коштаў у кожным пятым з больш чым трох тысяч правераных гандлёвых аб'ектаў.

Па словах дзяржаўнага інспектара сектара кантролю за цэнамі на спажывецкія тавары КДК **Вольгі Праваторавай**, у крамах таксама выяўляліся парушэнні санітарных нормаў і правілаў гандлю.

«Да дысцыплінарнай адміністрацыйнай адказнасці прыцягнуты 812 чалавек. Акрамя таго, за грубыя парушэнні заканадаўства прыпынялася дзейнасць 35 гандлёвых аб'ектаў», – распавяла яна.

За завышэнне коштаў у Беларусі прыцягваюць не толькі да адміністрацыйнай, але і да крымінальнай адказнасці. І як кожная кампанія, ініцыяваная зверху, без перагібаў не абыходзіцца. Так, днямі "Лідская газета" паведаміла пра судовы працэс над загадчыцай аднаго з магазінаў.

З-за таго, што не змянілі цэннікі на каўбасу, пакупнікоў аблічылі на суму не менш чым 9 рублёў 35 капеек. А па іншых каўбасных вырабах розніца склала 10 рублёў 77 капеек. Пагадзіцеся, смешныя сумы. Але была ўзбуджаная крымінальная справа. Дзеянні загадчыцы кваліфікаваныя судом па ч.2 арт.426 Крымінальнага кодэксу як наўмыснае здзяйсненне службовай асобай дзеянняў, якія выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, прадастаўленых па службе, што пацягнула прычыненне істотнай шкоды дзяржаўным і грамадскім інтарэсам (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў), здзейсненае з карыслівай зацікаўленасці.

У выніку жанчыне прызначылі два гады, без штрафу, з пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў, тэрмінам на тры гады. Аднак выкананне асноўнага пакарання адтэрмінавана на адзін год.

Аліна ГЛІНСКАЯ.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ



## Як паставіш другое кляймо, дык палепшыцца мяса само

На прыватным агракамбінаце ў Нясвіжы затрыманы заатэхнік, які на тушы жывёл ставіў іншае кляймо, і другая катэгорыя мяса ператваралася ў першую, прадукцыя ішла ў продаж па большай цане.

Вядома гэта ўсім калгасам,
Дый сам засведчыць я гатоў:
Каб пахваліцца добрым мясам,
Сагнаць патрэбна сем патоў.
І мяса кепскае, вядома,
Калі няўдалыя кармы.
Парою ў ход ідзе й салома
Падчас галоднае зімы.
Дый летам ёсць бяда такая,
Калі лянуецца пастух
І лепшай пашы не шукае.
Ну, словам, трэба шмат патуг,
Каб мяса самай лепшай "пробы"
Было ў народа на стале,
Усім прыйшлося даспадобы,
І елі ўсмак яго.
Але
Імкнуцца гэткія патугі
Рабіць не ўсе і не заўжды –
Ні дабрахоць і ні з-пад пугі.
Быў заатэхнік малады,
Што родам, мусібыць, не з вёскі,
З такой кагорты акурат
І выбраў шлях, як кажуць, коўзкі.
Ягоны агракамбінат,
Што на забой расціў гаяду
І гадаваў даўно свіней,
Сярод астатніх плёўся ззаду,
Сваю прадукцыю танней
Заўсёды аддаваў у крамы.
Што вельмі нізкая цана,
Гатунак мяса горшы самы –
І заатэхніка віна.
Ён хваляваўся, што з работы
Дырэктар, можа быць, турне.
Варочаць гной няма ахвоты…
"За мяса ён аддзячыць мне,
Як узрасце цана "да неба".
Яно палепшыцца само!"
І для таго патуг не трэба,
Калі ў кішэні ёсць кляймо.
І мяса ўсё гатункам першым
Вазілі да народных мас.
Бадай, на гэтым мы завершым
Пра заатэхніка расказ:
Яго, гавораць, затрымалі,
І карай будзе не рубель…

* * *

З жыццём у якасці маралі
Хачу правесці паралель.
На жаль, не першага гатунку
Цяпер і нашае жыццё.
Усіх нас "выцягнулі ў струнку",
Законы колюць, як асцё.
Лёс на людзей бяду абрушыў,
І ёй мы рады не дамо.
Калі ўжо Бог на нашы душы
Паставіць лепшае кляймо?

### Нюх на гарэлку

– Як ні прыйду – ты п'еш заўжды,
Твой стол ніколі не пусты.
– Я не прапойца, дружа, ды
Саджуся піць – прыходзіш ты…

### Каго мучыць сумленне?

Падказку дам для маладых,
Бо маюць вопыт небагаты:
Часцей сумленне мучыць тых,
Хто насамрэч не вінаваты…

### Жаданне і мара

Мяне нядаўна думка напаткала
Часінай шарай:
Жаданне, на якое грошай мала,
Здаецца марай…

### Жонка ці машына?

Калі дзверцы для жонкі мужчына
Адчыніў, каб не ляснула звонка,
Дык ці новая ў мужа машына,
Ці з'явілася новая жонка…

### Наймудрэйшая расліна

Здзівіць нікога не павінна
Такая ісціна зямная:
Хрэн – наймудрэйшая расліна,
Бо ён усё на свеце знае…

